І ГЭТА ТАК!

# Гомельскія НАВІНКІ

**Жоўтая газетка на роднай мове** Красавік 2016

**Першае 100% цалкам беларускамоўнае выданне Гомельскага рэгіёну**



## Гомельскія людзі-агароды

стар. 3

**У Гомелі пад гандлёвы цэнтр Тапузідзіса зносяць гаражы**

стар. 5

**Голы мужчына ў Гомелі ўварваўся ў кватэру і ўдарыў нажом 4-гадовую дзяўчынку і яе бабулю**

стар. 6

**6 футбольных клубаў вышэйшай лігі зрабілі беларускамоўныя формы**

стар. 7

# Ігар Случак даслаў лісты ўсім таварыствам абароны спажыўцоў

***Каардынатар грамадскага аб'яднання "Справаводства па-беларуску" Ігар Случак накіраваў усім беларускім арганізацыям, якія займаюцца абаронай правой спажыўцоў, адмысловыя лісты.***

– Я звярнуўся ва ўсе таварыствы абароны спажыўцоў, іх каля 50-ці, з прапановай, каб яны падтрымалі змены ў закон "Аб абароне правоў спажыўцоў", паводле якіх інфармацыя аб тавары павінна давацца на дзвух дзяржаўных мовах адразу.

Згодна патрабаванняў Мытнага саюза на таварах чальцоў саюза інфармацыя павінна быць пададзена абавязкова па-руску. А так як у Беларусі дзве дзяржаўныя мовы, то беларускія вытворцы абіраюць толькі рускую, ігнаруючы беларускую.




Ігар Случак кажа, што яму будзе цікава даведацца, колькі нагул таварыстваў абароны правоў спажыўцоў адкажа на гэтыя звароты, колькі з гэтых таварыстваў падтрымае прапановы, і будзе бачна, чые правы абараняюць яны – толькі рускамоўных спажыўцоў, ці ўсё ж такі і беларускамоўных таксама.

*Васіль Кроква*

# У Рэчыцы міліцыя затрымала журналіста-фрылансера Кастуся Жукоўскага

***У Рэчыцы міліцыя затрымала журналіста-фрылансера з Гомеля Кастуся Жукоўскага.***

Як паведаміў Жукоўскі, ён праводзіў вулічнае апытанне ля Дома побыту ў цэнтры Рэчыцы. «Каля Дома побыту размешчана, прычым ужо даўно, выказванне Кастуся Каліноўскага «Не народ для ўрада, а ўрад для народа». Я прасіў мясцовых жыхароў выказаць іх меркаванне: ці згодныя яны з гэтымі словамі. Але прыйшла міліцыя і без тлумачэння прычын прапанавала мне прайсці ў РАУС», — адзначыў Жукоўскі.

Фрылансер звярнуў увагу, што міліцыянты не назваліся, не патлумачылі сутнасць прэтэнзій да яго, і паводзілі сябе, паводле яго слоў, «нахабна, як крымінальныя элементы».

*БелаПАН*



# Гомельскія людзі-агароды

***«Ён не можа змяніць свет, не можа паўплываць на падзеі ў сваёй краіне. Усё, што ён можа – паставіць новы хлеў у сваім двары». Андрусь Горват – пра палескага «маленькага чалавека».***

Вы нават не ўяўляеце, якая прорва паміж Менскам і Прудком! Калі я ездзіў у Беласток і Вільню, я не адчуваў такой розніцы, як адчуваю яе ўнутры Беларусі. Яна бачна ва ўсім: у аскепках пачутых размоў, у позірках і рухах. Я пятнаццаць год пражыў у Менску і разумею яго. Ужо год спрабую зразумець палешукоў – чаму яны іншыя. Цяпер я ўбачыў відавочнае: у палескіх вёсках людзей няма, палешукі – гэта зямельныя надзелы. Сучасны чалавек абавязаны мець індывідуальнасць. Паляшук яе не мае. У каго той халеры трохі было, той даўно з'ехаў. Засталіся тыя вяскоўцы, якія прэзентуюць сабой свае агароды. От і ўся філасофія.












Самагубства праф. Ігнатоўскага і паэты Янкі Купалы.

Гэта бачна ва ўсім. Узяць хаця б вопратку.

От хлопец па Менску ідзе. У яго даўгая барада і тонкія ногі ў вузкіх портках. Знізу блішчаць голыя белыя лыткі. Нармальна? Нармальна. А ў Прудку да мяне людзі хадзілі на споведзь, бо праз маю бараду думалі, што я святар. Я доўга не мог зразумець пытання: «А табе ўвогуле піць можна?» Потым дацяміў і пачаў галіцца. Бо тут мой мэсідж: «Я модны еўрапейскі хлопец, трохі філосаф, трохі пацыфіст, я таямнічы, але бяскрыўдны для людзей» – ніхто ў маёй барадзе не прачытаў. Няма разумення – няма барады.

А быць худым у вёсцы – гэта быць хворым.

Калі ты агарод, то мусіш выглядаць дужым. «Ты мо хвараеш?» – цікавіліся дзядзі і цёці з шырокімі плячыма. І от год прайшоў, а я палюбіў беспамерныя бушлаты, шырокія тоўстыя нагавіцы. Я палюбіў апранацца так, каб хаця б здалёк быць падобным да чалавека, які падыме начоўку з каравякам.

На менскім пешаходным пераходзе чакаў зялёнага сігналу святлафора. А спераду – цётачка гадоў шасцідзесяці: з начосам, у джынсах і бліскучых кедах. У вёсцы баба ў шэсцьдзесят – то баба. Глядзіш на яе і не разумееш, дзе баба пачынаецца, а дзе зямля, на якой яна

стаіць.

У нас тут самы модны колер вопраткі – «сухі чарназём летнім днём».

От калі свята, то іншая справа. На свята палеская баба надзене чорныя порткі са стрэлкамі, а зверху – блузку з буйным малюнкам ружаў. У вёсцы не трэба падкрэсліваць сваю фігуру – у вёсцы трэба падкрэсліваць, што ты клумба. Тут няма культу цела – ёсць культ пейзажных замалёвак. Па вопратцы можна сказаць пра колер і якасць зямлі на ўчастку і якая клумба расце пад вокнамі.

Таму мяне ўразіла цётка ў джынсах і бліскучых кедах. Я ўбачыў, якая ў яе попа, але не ўбачыў – які агарод. Я не змог яе прачытаць. Я не змог яе зразумець. Тысяччу галасоў сваіх землякоў я думаю: «Абы што. От людзі здурнелі».

Я быў перакананы, што вясковыя мужчыны заўжды апранаюць адное і тое ж – і ў святы і ў будні. Цяпер я бачу розніцу.

Ведаеце, чым адрозніваецца святочны касцюм ад працоўнага? Ён чысты! От і ўсё. Мужык не дазволіць сабе расказваць пра ружовы куст за хлявом. Ён нясе ў грамадства іншы мэсідж: «Я заўсёды працуюгарую. От баба ў мяне – куст, бач якая гарная, той блузкай з ружамі можна дзвюх кароў ухутаць, а я так, я проста побач са сваёй бабай». Адзіныя праменьчыкі мужыцкай індывідуальнасці прабіваюцца з бушлата з эмблемай якойсьці канторы ці з вайсковых камуфляжных портак: «От я тут працаваў, от я тут быў у войску, а болей нічога пра сябе не раскажу».

Раней мне здавалася, што тая індывідуальнасць проста глыбока схаваная. Я глядзеўглядзеў, шукаў-шукаў. Не, няма.

От гляньце на менчукоў – толькі геніі, усе ўплывовыя і ўсёмагутныя ва ўспрыманні сябе. Сяляне, наадварот, упэўнены, што маленькія нязначныя людзі. Нябачныя і нячутныя. Яны не могуць змяніць свет, не могуць паўплываць на падзеі ў сваёй краіне. Усё, што яны могуць – паставіць новы хлеў у сваім двары. Воля палешука заканчваецца за плотам яго селішча. Чалавек ён толькі ў сваім двары, а ў Заплоцці чалавекам перастае быць. Там можна красці і цягнуць скрадзенае ў сваё кубла. Там можна выкідаць смецце. Там няможна выказваць сваю волю. Заплоцце – як замежжа.

Таму вы ніколі не пабачыце на сталічных акцыях пратэсту прудкаўцоў з віламі. Справа не ў тым, што яны не хочуць зменаў. Яны іх вельмі хочуць.

Але не ведаюць, што могуць на штосьці ўплываць. І вы не знойдзеце словаў, каб расказаць ім пра тое, што Сусвет не мае межаў, што плот – гэта не мяжа. А прудкавец ніколі не зразумее пратэстоўца. Чагосьці патрабаваць за плотам – на гэта няма права. От і ўсё.

За плотам людзі-агароды будуць галасаваць за таго, за каго ім скажуць. Яны сплацяць усе падаткі. За плотам людзі-агароды – паслухмяныя кацяняты.

Але не лічыце іх тупым бязвольным статкам. На сваіх дваццаці пяці сотках яны дбайныя гаспадары – маюць і волю, і смеласць. От суньцеся туды, учыніце там паскудства – і атрымаеце кулю ў спіну. Але гэта будзе вельмі павольная куля.

Вясковец метадычна, незаўважна, ціха-ціха будзе вас знішчаць. Ён расцягне гэты працэс на пяцьдзясят год. Ён паставіць сваёй мэтай асабіста расказаць кожнаму жыхару Зямлі пра ваш паскудны ўчынак. Ён напіша заявы на імя ўсіх начальнікаў – ад старшыні сельсавету да Бога. Я ўжо год з’яўляюся саўдзельнікам такога хаджу – дапамагаю аднаму чалавеку, які страціў сваё селішча трыццаць год таму, складаць лісты. У яго няма спадзеву дабіцца праўды. Але ён не супакоіцца ніколі.

Трыццаць год таму чужы бот стаў на адзіны кавалак зямлі, дзе мой знаёмец меў сваю волю, і ў суровай паляшуцкай душы запусціўся незваротны механізм не забыцца на гэта і адпомсціць.

У палескіх вёсках людзей няма, а ёсць зямельныя надзелы. Палешукі – гэта зямельныя надзелы. Але калі звузіць свет да памераў таго надзелу, вы ўбачыце на ім чалавека – глыбокага і смелага. А выйшаў чалавек за плот, сустрэў ля крамы іншага чалавека – і от скрывілася прастора і ўжо не людзі, а два агароды кідаюць адзін у аднаго насенне кабачкоў.

*Андрусь Горват, вёска Прудок, Калінкавіцкі раён*



# У Гомелі пад гандлёвы цэнтр Тапузідзіса зносяць гаражы

***У Гомелі выбухнуў чарговы скандал з пераносам гаражоў, размешчаных на скрыжаванні вуліц Савецкая і Яфрэмава. Зямельны надзел, на якім размяшчаўся ГСК-41, канфіскавалі для дзяржаўных патрэб пасля заключэння ўладамі дамовы з прадпрыемствам «Тытунь-Інвест». Кампанія мільянера Паўла Тапузідзіса хоча пабудаваць на гэтым месцы гандлёва-забаўляльны цэнтр.***

Гаражы тут з'явіліся яшчэ ў 1970-х, у 2004 годзе быў афармлены гаражна-будаўнічы кааператыў. Пасля канфіскацыі зямельнага ўчастка пад гаражы выдзелілі новы ўчастак на ўскраіне горада. Многія ўладальнікі (а ў кааператыве — 276 чалавек) адмовіліся пераязджаць туды ці браць кампенсацыю ў 10 мільёнаў рублёў.




«Ні акта прыёмкі пляцоўкі, ні тэхнічнай дакументацыі, ні акта бязвыплатнай перадачы пляцоўкі кааператыву нам так і не паказалі! 3 мільярды рублёў ужо выдаткавана на добраўпарадкаванне той пляцоўкі, і гэтыя грошы лягуць на наш кааператыў, як толькі мы туды пераедзем. ГарСАП асвоіў на новай пляцоўцы больш за 260 мільёнаў — гэта таксама потым нам плаціць, чаму?!» — распавядае старшыня ГСК-41 Таццяна Матросава.

Канфлікт доўжыцца не першы дзень. Прынята рашэнне аб прымусовым пераносе гаражоў. Пачалі з гаража старшыні. «Чаму з яе гаража? Бо ён у цэнтры кааператыва! Больш лагічна было б з першага або апошняга гаража пачынаць! Яны спецыяльна гэта зладзілі: маўляў, перанясём гараж старшыні, тады лягчэй будзе астатнія гарнуць», — абураныя ўладальнікі гаражоў. Яны распавядаюць, якому ціску падвяргаюцца на працы ўладальнікі гаражоў.

«Усіх — і на «Гомсельмашы», і на «Водаканале», і ў тралейбусным парку, і ў «ГарСАПе»выклікаюць да начальства і патрабуюць: ці перанось гараж, ці мы цябе звольнім, вось што робіцца! І некаторых, якія працівіліся, ужо звольнілі. Гэта прававая дзяржава?» — крычаць людзі.

З 9 гадзін раніцы каля гаражоў — іх уладальнікі, намеснік кіраўніка адміністрацыі Чыгуначнага раёна Гомеля Аляксандр Германаў, міліцыя, пажарныя, камунальныя службы (ГарСАП). Прадстаўнікі ўлады загадваюць рабочым ГарСАПа «рэзаць» гараж Таццяны Матросавай. Тыя не адважваюцца.

«Толькі паспрабуйце! Вы іх, начальнікаў, спіны зкрываеце, толькі зачапіце мой гараж — вы будзеце вінаватыя», — папярэджвае старшыня кааператыва. Працоўныя топчуцца на месцы. Начальнікі камусьці пературэлефаноўваць па тэлефоне. «Рабочыя стаяць — яны важнейшыя за начальнікаў, а мы як дурні стаім! Кажам: рэжце, а яны кажуць — не будзем рэзаць», — тлумачыць камусьці па тэлефоне Аляксандр Германаў. «Участак перададзены «Тытунь-Інвесту», ёсць інвестыцыйная дамова, падпісаная Дворнікам (старшыня Гомельскага аблвыканкама. — А.Г.), зямля канфіскавана для дзяржаўных патрэб.

Для рэалізацыі правоў уладальнікаў гаражоў пабудавана пляцоўка на Віцебскай, і яна адпаведае ўсім нарматывам і патрабаванням. А яны супраціўляюцца паўтара года, прынята рашэнне аб прымусовым перамяшчэнні гаражоў на пабудаваную пляцоўку, якая адпавядае ўсім нарматывам, там усё зроблена, эстакада, ліўневая каналізацыя», — тлумачыць намеснік кіраўніка раённай адміністрацыі.

«Пакажыце нам дакументы! Пакажыце акт, пакажыце, што пляцоўка прынятая! Мы не будзем потым аплачваць працы, мільярды затрачаныя! На нас усё павесяць, а вы толькі фількіны граматы дасылаеце нам!

Пакажыце дакумент, на падставе якога вы пераносіце гараж? Дзе камісія, дзе акт прыёму?» — кіпіць Таццяна Матросава і іншыя ўладальнікі гаражоў. Дастаецца і Аляксандру Германаву.

«З бруду ды ў князі? Дык запомні, што князі не вечныя, а вось бруд — вечны! Мы Піліпца (былы старшыня гарвыканкама, які адбыў ужо пакаранне за карупцыйныя злачынствы. — А.Г.) пераіжылі, Ранько (былы намеснік старшыні гарвыканкама, ужо не працуе. — А.Г.), Чысцік (былы намеснік старшыні гарвыканкама, які здзейсніў самагубства. — А.Г.), Краўцова (былы кіраўнік адміністрацыі Чыгуначнага раёна, які загінуў. — А.Г.) — і цябе таксама пераіжывём!» — кажа старшыня кааператыва.

Людзі просяць дакументы на пляцоўку на вуліцы Віцебскай, улада запэўнівае, што дакументы будуць — але пасля таго, як людзі перавязуць гаражы. Абяцанням ніхто не верыць. Таццяна Матросава трасе пакетам дакументаў і пералічвае нявыкананыя абяцанні і дасканалыя парушэнні.

«Дзе камісія, каб прыняць мой гараж? Дзе акт?» — пытаецца яна. «Я камісія», — адказвае Аляксандр Германаў. Ён з'язджае на кароткі час і вяртаецца з дакументам — распараджэннем. «Стварыць камісію па прыёмцы ў эксплуатацыю аб'екта «Перанос гаражоў з Савецкай на Віцебскую» — напісана ў дакуменце з пералікам прозвішчаў.

«Фількіну грамату прывёз!» — зноў лаюцца ўладальнікі гаражоў. У рэшце рэшт Таццяна Матросава адкрывае дзверы свайго гаража, просіць не проста так перавезці яе рэчы, а скласці акт. Пачынаецца складанне акта. «Пара абутку, яшчэ пара абутку, дзіцячы абутак», — пералічваецца маёмасць у гаражы. У нейкі момант Таццяна Матросава, недалёка ад якой — дзве каністры, просіць у мужа запальнічку. Міліцыянты кідаюцца да яе. Ці мала што? Абстаноўка нервовая. Раптам тут нешта загарыцца, выбухне. Жанчына падае, ёй дрэнна. Прыехала хуткая, аказвае ёй дапамогу. Дрэнна стала і іншай жанчыне. Ім мераюць ціск, уводзяць ін'екцыі, ад шпіталізацыі жанчыны адмаўляюцца.

Лаянка з міліцыяй перарастае ў хапанне адзін аднаго за вопратку. Міліцыянты вырашаюць скласці на адну з жанчын пратакол за непадпарадкаванне, вядуць да аўтамабіля. Яна падае на зямлю. Зноў выклікаецца хуткая дапамога.

«У яе сэрца хворае, ёй нельга нервавацца!» — тлумачыць муж, таксама ўладальнік гаража. Міліцыя прапануе і яму прайсці разам з жонкай, каб скласці пратакол. Работнікі ГарСАПа тым часам грузяць у кузаў ГАЗа рэчы з гаража старшыні кааператыва. Міліцыя прапануе Таццяне Матросавай прайсці ў службовы аўтамабіль. Жанчына спрабуе ўцякаць. Міліцыя яе даганяе і вядзе да службовага аўтамабіля, жанчына падае на зямлю. Зноў выклікаецца хуткая дапамога. За ўсім, што адбываецца, назіраюць іншыя ўладальнікі гаражоў. «Вось так яны паступаюць з тымі, хто на іх гарбаціццп! Хто іх корміць і поіць, народ для іх — смецце!» — каментуе пенсіянер, які назіраў, як міліцыянты вялі ў аўтамабіль жанчыну.

*Алена Германовіч*

# Голы мужчына ў Гомелі ўварваўся ў кватэру і ўдарыў нажом 4-гадовую дзяўчынку і яе бабулю

***Яны ў рэанімацыі.***

Чарговае шакуючае злачынства адбылося ў Гомелі ў аўторак. Сярод белага дня 27-гадовы мужчына ўварваўся ў чужую кватэру, ударыўшы нажом 4-гадовую дзяўчынку і яе 55-гадовую бабулю. Пры гэтым нападнік быў цалкам голым.

— Суседзі бачылі мужчыну незадоўга да трагедыі апранутым — ён сядзеў на лавачцы ля пад'езда. Неўзабаве ён зайшоў у пад'езд і пачаў тузаць за ручкі ўваходных дзвярэй. Адна з кватэр аказаліся незамкнёнай. Прайшоўшы на кухню, мужчына ўзяў нож і адзін раз ударыў дзяўчынку, якая знаходзілася ў кватэры, і некалькі разоў яе бабулю. Жанчына стала крычаць, гэта пачуў сусед, які як раз быў у гэты час на пляцоўцы. Ён забег у кватэру і выбіў нож з рук нападніка. Іншыя суседзі, пачуўшы крыкі, выклікалі міліцыю, — распавяла афіцыйны прадстаўнік УСК па Гомельскай вобласці Марыя Крываногава.

Нападніка затрымалі, Гомельскі гарадскі аддзел СК распачаў крымінальную справу за замах на забойства двух чалавек. Зараз следчыя спрабуюць высветліць у мужчыны матывы злачынства. Па папярэдніх дадзеных, ён быў цвярозы, а вось вынікаў спроб на наркатычныя рэчывы пакуль няма. Таксама па папярэдняй інфармацыі, які нападаў раней не судзімы, халасты, лічыцца рабочым на адным з прадпрыемстваў.

Тым часам і дзяўчынка, і бабуля знаходзяцца ў рэанімацыі ў цяжкім стане.

*Павел Міцкевіч*

ГумНо СПАРТЫУНАЕ

# 6 футбольных клубаў вышэйшай лігі зрабілі беларускамоўныя формы

***У Беларусі пачынаецца новы футбольны сезон. Ён абацае быць прыхільным для выкарыстання беларускай мовы ў спартовай дзейнасці клубаў, – на гэта спадзяецца каардынатар грамадскай кампаніі “Справааводства па-беларуску” Ігар Случак:***

– Пачынаецца чэмпіянат Беларусі па футболе, новы сезон, і ўжо зараз вядома колькі беларускіх футбольных клубаў вышэйшай лігі будуць выступаць у форме з прозвішчамі па-беларуску. У гэтым годзе такіх клубаў будзе шэсць. Гэта “Дынама” (Менск), “Дынама” (Берасце), “Тарпеда-БелАЗ” (Жодзіна), “Крумкачы”, “Гарадзея” і футбольны клуб “Нёман” (Гародня). Гэта добры паказчыць, бо, напрыклад, у мінулым годзе толькі тры каманды выступалі з прозвішчамі па-беларуску.

Гарадзенскі футбольны клуб “Нёман” прыслухаўся да думкі сваіх заўзятараў, якія зладзілі апытанне ў інтэрнэце. Амаль 70 працэнтаў апытаных выказаліся за беларускую мову на форме гульцоў “Нёмана”. Хоць у клуба ўжо быў камплект з расейскамоўнымі прозвішчамі, кіраўніцтвам каманды было прынята рашэнне другі камплект формы зрабіць беларускамоўным.

*Васіль Кроква*

Сядзіць беларус у канцлягеры, і тут ахоўнік-акупант звяртаецца да яго па-беларуску. Беларус:
— А БОЖУХНА, ЯКОЕ ШЧАСЦЕ! ДАВАЙЦЕ ЯШЧЭ ШЫЛЬДАЧКІ ПЕРАКЛАДЗЁМ!

## Пяці ФК адмоўлена ў ліцэнзіі на ўдзел у першай лізе чэмпіянату Беларусі

***У Доме футбола адбылося пасяджэнне Камітэта па клубным ліцэнзаванні, на якім былі разгледжаны заявы суіскальнікаў ліцэнзіі АБФФ «Першая ліга».***

Прыняты рашэнні аб выдачы ліцэнзій футбольным клубам «Баранавічы», «Орша», «Смалявічы-СТІ», «Тарпеда» (Мінск), «Прамень» (Мінск), «Слонім».

Пяці клубам адмоўлена ў выдачы ліцэнзій.

Футбольным клубам «Днепр», «Смаргонь» і «Хімік» — за парушэнне артыкула 53 Рэгламенту па ліцэнзаванні і кантролі дзейнасці клубаў. Футбольныя клубы «Кобрын» і «Узда» не перадалі дакументы, якія пацвярджаюць выкананне крытэраў ліцэнзавання.

Па футбольных клубах «Гомель», «Ашмяны», «Ліда», «Гомельжэлдортранс» і РЦАР па футболе БДУ (каманда «Зорка-БДУ» Мінск) камітэт прыме рашэнне пазней.

*БелаПАН*

## У дзіцячым садку ў Калінкавіцкім раёне ўзарваўся ацяплялньы кацёл

***7 красавіка выратавальнікам Калінкавіцкага раёна ад работніка дзіцячага садка ў вёсцы Дудзічы паступіла паведамленне пра тое, што там адбыўся разрыў катла.***

***У выніку пашкоджаны кацёл на цвёрдым паліве, ад выбуху нічога не загарэлася.***

Яшчэ да прыезду ратавальнікаў дарослыя эвакуявалі 34 дзетак і выйшлі самі. Пацярпелых няма.

Як мяркуецца, прычына выбуху, на думку ратавальнікаў, — утварэнне залішняга ціску ў контуры катла.

*112.by*




Калі бусел прыносіць немаўля ў Гомель, ён не глядзіць дзіцяці ў вочы.

# Доўбашы, якіх правяраюць на датычнасць да тэрактаў у Брусэлі, родам з Гомельшчыны, пераехалі ў Бельгію ў 2007 г.

***Браты Доўбашы і Марат Юнусаў, якіх правяраюць на дачыненне да тэрактаў у Брусэлі, родам з Гомельскай вобласці і ўжо некалькі гадоў жывуць у Еўропе. Пра гэта TUT.BY паведаміла крыніца, блізкая да тэмы.***

Марат Юнусаў атрымаў грамадзянства Бельгіі ў 2008 годзе. Аляксей Доўбаш і яго малодшы брат Іван жылі ў Бельгіі з 2007 года. Усе яны прынялі іслам.

Браты пераехалі ў Еўропу з маці, калі былі яшчэ дзецьмі. Пасля разводу яна выйшла замуж за бельгійца і забрала з сабой у Брусэль сыноў. Іх бацька па-ранейшаму жыве на Гомельшчыне. Пасля ад'езду, распавядаюць сваякі, у Беларусь прыязджаў толькі старэйшы брат Аляксей — прыкладна тры гады таму.

— На той момант ён ужо прыняў іслам, насіў бараду, — кажа сваяк. — Не разумею, чаму ён прыняў такое рашэнне. У сям'і ўсе праваслаўныя. Ён вельмі высокі хлопец, займаўся боксам, удзельнічаў у спаборніцтвах. Пакуль быў у Беларусі, крыху пажыў у бацькі, астатні час правёў у бабулі. Не ведаю, ці ёсць у яго яшчэ знаёмыя ў Беларусі.

Ёсць дадзеныя, што браты Доўбашы апошні час былі не ў Бельгіі — вярнуліся ў краіну ў лютым 2016 года.

— Браты Доўбашы і Марат Юнусаў вядомыя Камітэту дзяржаўнай бяспекі Беларусі, — паведаміў кіраўнік прэс-службы КДБ Беларусі Дзмітрый Пабяржын. Ён заўважыў, што праводзіцца праверка інфармацыі аб магчымай іх датычнасці да тэрарыстычнай дзейнасці.

Яшчэ тыдзень таму расійскія СМІ папярэджвалі, што браты Доўбашы і Марат Юнусаў з Беларусі могуць быць датычныя да падрыхтоўкі тэрактаў у Бельгіі.

Як паведамляецца, 27-гадовы Аляксей Доўбаш першым прыняў іслам і пачаў кантактаваць з радыкаламі. Пад уплывам старэйшага да іх далучыўся 23-гадовы Іван. Па дадзеных расійскіх спецслужбаў, браты Доўбашы адправіліся ў лагер тэрарыстаў у Сірыі, там прайшлі баявую падрыхтоўку, пасля чаго выехалі на тэрыторыю Еўрасаюза.

Нагадаем, што раніцай 22 сакавіка ў аэрапорце Брусэля адбыліся два выбухі, затым выбухі прагрымелі ў метро. Узровень тэрарыстычнай пагрозы ўзняты да максімальнага.

*news.tut.by*

Калі бяжыш па бегавой дарожцы, уяўляй, што ты ўцякаеш з краіны. Так лягчэй

**Факты**

У Гомелі на конкурсе цырульнікаў маладому чалавеку зрабілі вышыванку проста на галаве.

M&S MEDIA

Неперыядычнае выданне
Інфармацыйна-забаўляльная газета
«Гомельскія Навінкі Красавік 2016»
Уладальнік выдання - M&S Media

Заснавальнік: Гуан Карлас
Галоўны рэдактар: Лявон Грос
Галоўны дызайнер: Аляксей Венецыянаў

246006, г. Гомель, вул. Замаева, 69
Рэдакцыя "Гомельскія Навінкі 2015"

Надрукавана на папяровай фабрыцы "ГумНо", г. Клінцы, вул. Мажаеўская, 17б.




Тыраж: 250 асобнікаў.
Распаўсюджваецца безкаштоўна.

Мы ў сацыяльных сетках:
***vk.com:*** gnavinkicom
***facebook.com:*** spravavodstva

Наш ***e-mail:*** gnavinki@gmail.com

M&S MEDIA